У нумары: Што дае гайнаўскае малако · Чалавек жыве толькі раз · Літаратурная старонка


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (281) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 1 ЛІПЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.


JANKA KUPAŁA

## KTOŚ TY TAKI?

Ktoś ty taki?
— Swój, tutejszy.
Czego chciałbyś?
— Doli lepszej.
Jakiej doli?
— Chleba, soli.
Po nich obu?
— Ziemi, swobód!
— Gdzieś rodzony?
— W mej wioszczynie.
— Gdzieś ochrzczony?
— Przy drożynie.
Czym święcony?
— Krwi kropidłem.
Czego pragniesz?
— Nie być bydłem.

Tłum. Bogdan Żyranik

JANKA KUPAŁA

## NAD MOGIŁAMI

Śpijcie spokojnie,
Mrokiem owiani,
Życiem strudzeni,
Losem znękani.

Ziemia ta czarna
Na oczy spadła
I pamięć ludzka
O was pobladła.

Nad prochem waszym,
Nad kurhanami
Łzy się unoszą
Gęstymi mgłami.

Krzyże jodłowe
W dół się schyliły,
Woda rozmyła
Wasze mogiły.

Gdzieniegdzie tylko
Kwiatek życzliwy —
Wszystko spowite
W łozy, pokrzywy.

Bladosinymi
Przywidzeniami
Błądzicie latem
Nad mogiłami.

Upiory nocne
Tu się zbierają,
Głuchą północą
Sowy hukają.

Wilki się schodzą
Porą zimową,
Wyjąc zawodzą
Pieśń pogrzebową.

Śpijcie spokojnie,
Mrokiem owiani,
Życiem strudzeni,
Losem znękani.

Tłum. Eustachy Łapski

## У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ



Янка Аніщчук з драмгуртка ў Скупаве (Гайнаўскі павет) у ролі Максіма з «Прымакоў» Янкі Купалы.
Фота ТАЧ

## КРАЯВІДЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ



Аўгустаў. Над возерам Нэцкам.
Фота ТАЧ

## Коміны сярод палёў



З берагу Гайнаўкі відаць сцены новапабудаванай Акруговай малочнай спулдзельні.

Світанне, першыя праменні сонца вырысоўваюцца з-за Белавежскай пушчы, вырываючы з цемры агорнутай сном Гайнаўку. Ападаючая імгла адкрывае стройныя коміны фабрык, высокія дрэвы, дамы, пустыя вуліцы горада.

З берагу пасёлка, зараз каля пушчы, сярод зялёных палёў і лугоў бялеюць абрысы новапабудаванага малочнага прадпрыемства. Стройны чырвоны комін дыміць, ніжэй доўгі будынак, цэгла, метал, шкло — гэта матэрыял галоўнага прадукцыйнага павільёна. Прадукцыйны аддзел спалучаецца з памяшкальным будынкам. Вялікія вокны, балконы, у вокнах каляровыя фіранкі. Старая Белавежская пушча, старыя маленькія домікі прыгарада не спадзяваліся, што іх суседам будзе сучасны, прыгожы прамысловы аб'ект. Коштам каля 15.000.000 зл. пабудавана гэтае прадпрыемства — сімвал новай плыні нашага жыцця. І нягледзячы на тое, што пятая гадзіна раніцы, стораж ужо адчыніў вароты, а шафёры запускаюць машыны. Што некалькі мінут грузавікі з бітонамі едуць у дарогу. Спяшаюцца. Дарогі ненайлепшыя, а яны павінны звезці з усёй акругі, якая ахоплівае 154 вёскі, малако і смятану. Ёсць зліўныя пункты малака, напрыклад, Кленікі, якія знаходзяцца ў адлегласці 48 км. Паехалі дзве машыны са спулдзельні і пяць «Стараў», пазычаных у ПКС-е.

— Ах, гэты транспарт ПКС-у, — наракае бухгалтар спулдзельні, — з'ядае наш даход. Толькі ў першым квартале заплацілі мы 170.000 зл. Я аблічыў, што за гэтыя грошы можам купіць чатыры грузавыя машыны. А аплата яшчэ ўзрасце; зараз прывозім каля 17.000 літраў малака, а ў сезоне — 30.000 — 35.000 літраў.

Мінае гадзіна. Вяртаюцца першыя грузавікі. Рабочыя выгружаюць бітоны са смятанай і малаком. Транспарцёр падае іх у сярэдзіну.

Мгр Марта Шумская і тэхнік Кацярына Шыманская бяруць пробы малака на аналіз.

З адборнай залы малако трубамі ідзе ў апаратоўню. Тут пачынаецца прадукцыйны цыкл. Агромная зала з

(Працяг на стар. 4)

## ДОБРЫ ПАЧАТАК УЗАЕМАДАПАМОГІ

Практыка паказвае, што аддзелы і гурткі БГКТ часта асягаюць добрыя вынікі ў працы там, дзе яны супрацоўнічаюць з некалькімі мясцовымі арганізацыямі і ўстановамі, у тым ліку з партыйнымі арганізацыямі. Аднак у многіх выпадках супрацоўніцтва такога дагэтуль яшчэ няма, або зводзіцца яно да індывідуальных кантактаў.

Беручы пад увагу важнасць праблемы члены ГП БГКТ на сваім апошнім Пленуме, якое было прысвечана працы гурткоў Таварыства, у пастановах звярнуліся да партыйных улад з просьбай шырэйшага чым дагэтуль зацікаўлення працаю нашых нізавых арганізацый у асобных паветах.

Пажаданні ГП БГКТ знайшлі адбіццё ў планах працы многіх партыйных арганізацый, а Экзекутыва Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы ўжо 7.VІ. г. года на чарговым пасяджэнні абсуджала некаторыя пытанні працы БГКТ на тэрыторыі павета.

У прысутнасці старшыні праўлення аддзела, штатнага працаўніка, прадстаўніка ГП і партыйна - адміністрацыйных працаўнікоў з Беластока некалькі гадзін абсуджаліся дасягненні і недахопы БГКТ. Сцверджана, што ў цэлым назіраецца далейшае пашырэнне працы ў напрамку заспакаення культурна - асветных патрэб насельніцтва. На раўні з гэтым маецца яшчэ шмат недахопаў у галіне арганізацыйнай дзейнасці. У прынятых пастановах Экзекутыва Павятовага камітэта звярнула ўвагу ўсім партыйным інстанцыям на патрэбу шырэйшага супрацоўніцтва з гурткамі БГКТ і аказвання ім дапамогі.

Ініцыятыву Павятовага камітэта ПАРП вітаем як добры пачатак узаемадапамогі ў працы.

ую

# ЧАЛАВЕК ЖЫВЕ ТОЛЬКІ РАЗ

(Працяг са стар. 2)

**ЗАКРЫЦЦЁ КОНГА.**

Рака Конга за адну секунду ўлівае ў Атлантычны акіян паўмільёна кубаметраў вады. І ўсёроўна даліна яе самая мокрая і самая нездаровая ў свеце. Праект прадугледзіць замкнуць раку і даліну Конга замяніць у адно або некалькі злучаных між сабой азёр, у выніку чаго атрымаўся б запас вады паверхнасцю ў 1 мільён квадратных км. Вада гэтая наводніла б многа пустынных абшараў Афрыкі.

**АБНІЖЭННЕ ЎЗРОЎНЮ МІЖЗЕМНАГА МОРА.**

Праект вядомы пад назвай плана Сергеля. Прадбачыць закрыццё Міжземнага мора плацінамі ў Гібральтарскім і Дарданельскім пралівах. Потым частка вод была б «выслана» на Сахару. Гэта радыкальна змяніла б клімат Паўночнай Афрыкі. А з абніжанага ўзроўню вады ў Міжземным моры на 100 метраў выплылі б вялікія абшары ўраджайнай глебы.

**ЗАКРЫЦЦЁ БАЛТЫЙСКАГА МОРА.**

Праект інж. Крылова аб пабудове плацін у пралівах Вялікі і Малы Белт і Зунд. Да замкнутага так мора не ўліваліся б воды з акіяна, што давяло б да змяншэння салёнасці вады ў Балтыцы і паправіла б клімат Прыбалтыкі.

**НАВАДНЕННЕ СЯРЭДНЯЙ АЎСТРАЛІІ.**

У Аўстраліі на 1 кв км. прыпадае 1 жыхар. Пустынны край. Уся сярэдзіна Аўстраліі глухая. Нічога тады дзіўнага, што ўжо даўно гаворыцца аб планах утварэння тут вялікага воднага басейна, які б радыкальна змяніў сітуацыю краіны.

**ПРАЕКТ ІНЖ. БАРЫСАВА.**

Прадбачыць закрыццё плацінай праліва Берынга і перапампаванне праз яе вялікай колькасці вады з Ледавітага акіяна ў Ціхі. Тады б у глыбіню Ледавітага акіяна сягнула цёплае цячэнне Гальфстрым, а гэта ацяпліла б клімат усяго паўночнага паўшар'я.

**ПЛАВАЮЧЫ ТУНЕЛЬ.**

Мае ён спалучыць японскія астравы Гонсу і Еза. Будзе складацца са сталёвых элементаў эластычна сканструяваных. Тунель будзе свабодна плаваць на пэўнай глыбіні. У гэтым раёне свету бываюць частыя землетрасенні, таму тунель палажыць на дне было б небяспечна.

Канал Атлантычны акіян — Ціхі акіян. Панамскі канал, які дае ашчаднасць 10 тысяч долараў кожнаму праплываючаму тут караблю (не трэба ехаць навокал Паўднёвай Амерыкі) не можа ўжо задаволіць сучаснага марскога транспарту поўнасцю. ЗША ўжо ад некалькіх год разважаюць мажлівасць будовы другога канала з Атлантычнага акіяна ў Ціхі, або ў Панаме, або ў Калумбіі.

**ТРАНСГІМАЛАЙСКАЯ ЖАЛЕЗНАЯ ДАРОГА.**

Праект праф. Пакроўскага прапануе спалучыць гарады Фрунзе (СССР) праз Кітай з Індыяй аж да Дэлі. Пракладзенне такой жалезнай дарогі вымагала б пабудовы многіх мастоў над горнымі працэсамі і пракапання многіх тунелей у горах. [illegible] аплацілася б вельмі.

**СУСВЕТНАЯ ЖАЛЕЗНАЯ ДАРОГА.**

Да рэалізацыі гэтага праекту павінны б прыступіць усе дзяржавы свету. На аснове застасавання ядзернай энергіі ў працы жалезных дарог, савецкія тэхнікі апрацавалі праект будовы атамната цягніка на супершырокім торы. Вышыня вагонаў 7 метраў, шырыня лініі 4,5 (наш нармальны тор — 1,43 м) хуткасць цягніка — 300 км на гадзіну. Жалезная дарога згодна з праектам спалучыла б Мадрыт, Парыж, Берлін, Варшаву, Маскву, плаціну ў праліве Берынга, порт Сімпсон, Ванковер, Сан-Францыска, Лос-Анджэлос, Мексік, Панамскі канал і Паўднёвую Амерыку.

Ці можна ўсё гэта зрабіць і калі?

Ніякі з гэтых праектаў не з'яўляецца фантазіяй. Будова кожнага заняла б 5—7 год. Для многіх аблічаны ўжо нават кошты. Для 8 сярод гэтых праектаў (у іх лічбе не найтаннейшы праект Барысава закрыць плацінай праліў Берынга) гэты кошт разам раўняецца 27,5 мільярдам долараў. Рэшта напэўна не перавысіць ста мільярдаў.

**Значыць, хапіла б, каб толькі на адзін год спыніць збраенні і будуць фінансы на рэалізацыю ўсіх гэтых фантастычных праектаў.**

Паводле «Фактаў і мыслі»

## Усякая ўсячына

Рэдкі груз выпаў на долю невялікага кабатамскага судна, якое адправілася ў рэгулярны рэйс між мацерыковай Італіяй і Сардыніяй. У Чывіта - Веккія судна ўзяло на борт тры тоны мурашак. Гэтыя мурашкі былі пазбіраныя ў Італьянскіх Алмах. Прадугледжваецца, што яны выцясняюць у Сардыніі мясцовую пароду мурашак, якія прыносяць многа шкоды прамысловаму коркаваму дубу.

*



На Далёкім усходзе на берагу Ціхага акіяна многа такіх цікавых скал.

*

Вучочыя Савецкага Саюза і Кітая вывучаюць выкарыстанне ледавікоў для абваднення і арашэння засушлівых і пустынных зямель.

Цікавы дослед штучнага таяння ледавікоў быў праведзены кітайскімі вучонымі ў Сіньцзяне. На буйны ледавік Цянь-Шаня з самалёта было скінута 70 тон вугальнага пылу, які рассеяўшыся, выклікаў паскоранае таянне ільду. У выніку было растоплена 1 мільён 250 тысяч кубаметраў ільду. Ваду выкарысталі для арашэння ворыўных палёў.

## Афрыканскі патрыёт

**— Заступаць мяне будзе Антуан Гізэнга, — сказаў першы прэм'ер міністр Патрыс Лумумба, перад тым, як адпраўляўся ў сваю афіцыяльную першую і апошнюю паездку. Паслядоўнік Патрыса Лумумбы мучыцца зараз у турме. Калючы дрот на вокнах. За плячыма Гізэнгі ўзброеная ахрона. Ён цалкавіта «адрэзаны» ад свету.**



## РАБАРБАР

Рэвень (рабарбар) — высокаўраджайная культура. Пры добрым доглядзе адзін чаранок часам важыць цэлы кілаграм. А ў даўжыню ён бывае звыш 70 сантыметраў. Вось чаму з аднаго гектара часам збіраюць больш сарака тон рэвеню.

Як бачыце, рэвень — сапраўдны зялёны велікан. У яго магутныя кусты, важкія чаранкі, вялізныя лісты. Да гэтай расліны - асілка не прыстаюць хваробы, не нападаюць на яе агародныя шкоднікі.

Асабліва цэняць рэвень за рані ўраджай. Вясной, калі агароднікі яшчэ садзяць агуркі, вы ўжо можаце ўжываць у страву рэвень.

Каштоўна і тое, што рэвень — шматгадовая расліна. Даволі пасадзіць яго раз, і вы будзеце збіраць ураджай цэлых дванаццаць год! Падумайце, колькі пры гэтым эканоміцца працы і сродкаў.

Чаронкі рэвеню багатыя вітамінамі, карыснымі мінеральнымі слоямі і іншымі рэчывамі, неабходнымі для нашага арганізма. З чаранкоў лёгка прыгатаваць смачнае варэнне, кампот, джэм, кісель. Варэнне з рэвеню цяжка адрозніць ад яблычнага. Славяцца і піражкі з рэвеневай начынкай. А які прыемны, асвяжаючы квас з яго!..

Маладыя ж лісты рэвеню ўжываюцца для прыгатавання смачных баршчоў і іншых страў. Лісты рэвеню лічацца спажыўным кормам і для трусоў. Асабліва карысна даваць іх маладым трусянятам.

Варта звярнуць увагу і яшчэ на адну асаблівасць рэвеню. Усе нашы гародніныя расліны любяць сонца. А вось рэвень не капрызны. Ён, бадай, адзіная расліна, якая можа добра расці і ў зацямнёным месцы: пад плотам ці каля сцяны хаты.

Рэвень часта высаджваюць і для ўпрыгожання школьнага ўчастка.

Але каб гэты велікан добра рос, яму патрэбна ўрадлівая глеба. Любіць рэвень і вільгаць.

— Усё гэта добра, — скажуць некаторыя чытачы. — А вось дзе дастаць рэвень для пасадкі?

Рэвень добра размнажаецца дзяленнем кустоў. Калі вы не дастанеце іх паблізу, то яго можна вырасціць з насення.



Карысныя парады

## ДЛЯ ЖАНЧЫН

Разгарачаны і ўспатнелы твар у час работы не чапайце рукамі і не мыйце халоднай вадой, асабліва з мылам. Лепш мыцца дажджавой вадой, а калі скура вельмі пацее, дадавайце ў ваду 3—5 кропель нашатырнага спірту.

Калі скура стала вельмі сухой, працірайце твар крыху падагрэтым алеем.

Пачырванелую і запаленую скуру нельга змазваць крэмам, а трэба асцярожна прыпудрыць бульбяным крахмалам.

Сістэматычна мыйце твар сыраквашай, тады і вяснушкі і пігментныя плямы пасвятлеюць.

Увечары на 30—40 хвілін твар трэба змазаць спажыўным крэмам .

На локцях скура часта робіцца сухой, шурпатай і маршчыстай. Каб гэтага не было, у час мыцця расцірайце локці гумкай, а пасля змазвайце якім - небудзь тлустым крэмам або маслам. Калі шурпатасць вельмі вялікая, перад мыццём зрабіце на 10 хвілін на локці кампрэс або ванначку з падагрэтага алею.

Часам на пятках скура грубее і трэскаецца. Ні ў якім разе нельга ў такім выпадку насіць абутак без заднікаў. Ногі трэба мыць штодня ў цёплай вадзе з мылам, старанна расціраючы пяткі шчоткай або мачалкай. Вельмі карысна рабіць гарачыя содава - мыльныя нажныя ванны з разліку на 4—5 літраў гарачай вады 1—2 лыжкі пітной соды і кавалачак мыла. Калі вы папарыце ногі на працягу 20—30 хвілін, разрыхлены рагавы слой добра здымаецца не вельмі вострымі ножніцамі або кавалкам пемзы. Пасля скуру пятак трэба змазаць борным вазелінам.




Ужо звыш года сябрую з Васяй. Як чалавек ён нядрэнны, не п'е гарэлкі, ветліва адносіцца да сваіх калегаў і знаёмых, паважае старэйшых, любіць многа чытаць, нядрэнна танцуе, ды сам не брыдкі. Да мяне вельмі чуллівы і ўважны. Вось за ўсё гэта я кахаю Васю. Не люблю яго толькі за тое, што ён вельмі зайздросны, часта мяне падазравае зусім безпадстаўна. Яму не падабаецца калі я пажартую з кім-небудзь, калі пагавару з якім-небудзь маладым чалавекам, а нават са сваім сябрам. Нядаўна мая сваячніца з адлеглай вёскі запрасіла мяне на сваё вяселле, дык ён мяне не пусціў. Вядома, я магла паехаць, але не хацела, каб пасля ўвесь час ён мяне папракаў за гэта. Вось гора, аб якім я саромлюся нават гаварыць сваім сяброўкам.

**Лена**
Дуброўскі павет

Ёсць такія маладыя людзі, якія няправільна разумеюць вернасць і давер. Паводле іх каханне гэта значыць нельга смяяцца, тым больш усміхнуцца да каго-небудзь, нельга мець сяброў, знаёмых, нельга нідзе аддаляцца на некалькі дзён ад свайго кавалера і гэтак далей.

Безумоўна, усіх гэтых умоў немагчыма датрымаць. Бо апрача нарачонага патрэбныя калегі і знаёмыя, з якімі трэба пагаварыць і пажартаваць па-сяброўску. У канцы канцоў гэта ж XX стагоддзе. Калі жывецца сярод людзей, дык трэба па-людску да іх адносіцца. Гэта ж зусім не азначае нейкай распушчанасці, парушэння даверу, або здрады, калі дзяўчына падтрымоўвае сяброўскія адносіны з маладымі людзьмі. Бо сяброўства і каханне — гэта ж дзве розныя справы. Вось у гэтым табе, Лена, неабходна пераканаць Васю. Пераканаць трэба і ў вернасці сваёй да свайго маладога чалавека. Бо пераважна так нараджаецца зайздрасць, калі няма поўнага даверу адзін да другога.

**СЭРЦАЙКА**




### У ЛЕКАРА



Доктар, я ўжо распранулася да палавіны

### СТАЎ БАЦЬКАМ

— Куды ты спяшаешся?

— Некалькі хвілін прайшло, як стаў я бацькам.

— А як чуецца жонка?

— Дзякаваць Богу, яшчэ нічога яна не ведае.

### У ТРАМВАІ

— Прашу так не пхацца?

— Я зусім не пхаюся, — адказвае вельмі тоўстая жанчына, — я толькі дыхаю.

### КОСКА

У трэцім класе вучні пісалі дыктант.

Вучань кажа свайму суседу па парце:

— Нешта мы доўга пішам, можа ўжо і коску пара паставіць.

### ЗАЙЗДРАСЦЬ



Што ж? Толькі скура ды косьці.




Небяспечная ЗАЦЯЖКА з раззбраеннем.

### ДОЎГІЯ ЎСХОДЫ

Лезе п'яны па чыгунцы і не можа разабрацца, дзе ён. «Божа, якія доўгія ўсходы, — думае ён, — мабыць ужо на дваццаты паверх залез».

**Прыслала Валя Ільяшук**

### ВІДАЦЬ НА ВОКА

Ледзь стоячы на нагах, падыйшоў п'яны чалавек да помніка Мікалая Капэрніка ў Варшаве і пачаў плакаць.

Убачыў гэта міліцыянер і запытаў п'янага, чаго ён так плача.

— Падобна гэты чалавек, — адказаў п'яны, паказваючы на помнік Капэрніка, — усё жыццё змарнаваў толькі на тое, каб даказаць, што зямля круціцца.

— Дык гэта ж на вока відаць, што зямля круціцца.

### ДЗЕД І ЎНУК

Трохгадовы ўнук запытаўся ў дзеда:

— Дзе падзеліся твае валасы?

— Павылазілі, — кажа дзед.

— Гэта ж у бабулі павылазілі, бо вунь якія доўгія, а твае, відаць, пахаваліся.

Баранам па пустазеллі

## Чаму не вяртаецца апетыт

Калі кішкі марша іграюць, дык тады чалавек спяшаецца ў сталовую і з апетытам есць. Але калі есць захочацца, а вы знаходзіцеся ў Гарадзіску альбо ў Нурцы ў Сямяцкім павеце, ды не дай бог яшчэ ў таргові дзень, дык ужо не варта спяшацца да ўстаноў грамадскага харчавання. Запытаеце чаму? А вось чаму. Калі зойдзеце і сядзеце за стол, дык адразу есць вам адхочацца. Прычыны наступныя. Там так накурана, што свету белага не відаць. Пад нагамі валяюцца бутэлькі ад гарэлкі. Аб іх можна спатыкнуцца і грымнуцца на падлогу. А калі вы без усякіх здарэнняў селі за стол і вам падалі абед, дык зноў «залімоненые» твары п'яніц прычыняюцца да таго, што збягае апетыт і не вяртаецца.

**М. Сваяк**

### ДЗЕЦІ



— Я падстрыгся як тата!..

По просьбе Нины Цихай з Тафілаўцаў змяшчаем песню «Ой, туманы мои»

## ОЙ, ТУМАНЫ МОИ

Слова: М. Исаковского Музыка: В. Захарова

Ой, туманы мои, растуманы!
Ой, родные леса и луга!
Уходили в поход партизаны,
Уходили в поход на врага. (2 раза)

На прощанье сказали герои:
«Ожидайте хороших вестей!»
И по старой Смоленской дороге
Повстречали незваных гостей. (2 раза)

Повстречали, огнём угощали,
Навсегда уложили в лесу,
За великие наши печали,
За горючую нашу слезу. (2 раза)

С той поры да по всей по округе
Потеряли злодеи покой.
День и ночь партизанские вьюги
Над разбойной гудят головой. (2 раза)

Не уйдёт чужеземец незваный,
Своего не увидит жилья.
Ой, туманы, мои, растуманы!
Ой, родная сторонка моя! (2 разы)

### АЛІЛУЙШЧЫК

— Узнімем!!! — нарабіў ён звону,
І вось вам працы плён ягонай:
Заместа мяса, малака —
Абавязацельстваў рака.

### ЗГУБІЎ



Прабачце, я шукаю сваю жонку.

### АДДАЙЦЕ ЗА ЖОНКУ



Я другі раз прыйшоў прасіць дазволу жаніцца на вашай дачцы...

## УРОК

Пакуль Кастусь адзяваў рыпсавую рубашку, новы касцюм і завязваў па-свойму гальштук, я маўчаў, прыглядаўся, імкнуўся адгадаць, куды збіраецца сябра, а калі Кастусь абрызгаўся адэкалонам, я не вытрымаў.

— Калі гэта не ваенная тайна, скажы, дружа, куды ты ідзеш? Па-мойму накіроўваешся да жанчыны, выкрасць яе слабое сэрца.

— Чаму слабое, — запытаў Кастусь аглядваючыся ў люстры.

— Кожная Німфа пасля вяселля скардзіцца на сэрца і абвінавачвае нас, што мы, мужы, з'яўляемся прычынай трэшчыны ва ўнутраным гадзіннікавым механізме. Кастусь — дружа! Калі ты рашыў пайсці на падобны самазгубны крок, перад абручынамі вядзі сваю Німфу да доктара, спецыяліста ад вуха, горла і носа. Няхай выслухае тваю выбранку, і потым ты паслухай вывадаў вучонага чалавека.

— Не разумею, пры чым тут вуха, горла і нос, — адазваўся Кастусь.

— Гэта найважнейшыя органы ў жанчыны. Мы, неразумныя аслы, звяртаем увагу на ногі і на бюст, а трэба глядзець вышэй. Калі лекар цябе завярае, што ў тваёй Німфы нос у парадку і яна не будзе ўсоўваць нос не ў свае справы, калі вушы ў Німфы адпорныя на людскія плёткі, у яе хранічна хворае горла і яна не будзе пры кожнай нагодзе дзерці горла ў хаце, чорт з табою — жаніся, брат.

— Не адгадаў, — адазваўся Кастусь. — Іду да мужчыны.

— Дарагі сябра, прабач за маю цікаўнасць. Накіроўваючыся да мужчыны, ты апрануўся, як на першамайскае свята.

— Ага, — прамычаў Кастусь, папраўляючы прычоску, затым дадаў: — Іду з афіцыйным візітам у ГС. Нясу скаргу на купленыя мною вугаль, які ляжыць на панадворку.

Паўзіраўся я праз акно і заўважыў, што гэта звычайны каменны вугаль, які прадаецца чашчым вёскам

— Менавіта гэта, — падхапіў Кастусь.

У гэтым каменным вугалю палавіна каменя але гэтыя каменні не хочуць гарэць.

— Кастусь, можаш закідаць мяне папяросамі, не пакрыўдую за гэта, аднак цябе я не разумею. Ідзеш у ГС са скаргай на якасць вугалю, а апрануўся, як міністр замежнай таргоўлі.

— Гэта спецыяльна, каб працаўнікоў ГС-у засароміць.

— З-за вугалю ты думаеш ім сорамна будзе?

— Бачыш, нашыя «ўжэнднікі» ў большасці сядзяць ва ўстановах нябрытыя, неахайна апранутыя і на наведвальнікаў глядзяць звысоку.

— Мяне падтачвае чарвяк зацікаўлення, як у ГС-е спаткаюць звычайнага грамадзяніна, які дае ім наглядную лекцыю культурных адносін.

Словы Кастуся мяне заткалі.

Кастусь мае часам фантазію, якой і псіхіятр здзіўляецца.

*Дзядзька Лявон*